Бельгійскага вадзіцеля выпусцяць на волю. Да суда (стар. 2)
Папяровы тыгр наменклатурнай пароды. Артыкул З.Пазьняка (стар. 4)



# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 18 ліпеня 1997 г. № 77 Кошт свабодны


## Арыштаваныя чацвёра абаронцаў беларускага ліцэя

Абаронцы Беларускага гуманітарнага ліцэя пацярпелі, але не здаюцца і працягваюць барацьбу за будынак, на які паклала вока ведамства Івана Ціцянкова. Па меншай меры чацвёра ўдзельнікаў акцыі пратэсту, што адбылася ўчора, былі арыштаваныя.

Падзеі пачаліся з паведамлення дырэктара ліцэя Уладзіміра Коласа, які вярнуўся ад міністра адукацыі В.Стражава. Радасных звестак не было: Колас змог толькі сказаць, што папрасілі пачакаць да панядзелка.

Гэтае не задаволіла бацькоў і вучняў ліцэя. Яны вырашылі правесці своеасаблівую акцыю пратэсту — прагулку вакол квартала, дзе знаходзіцца ліцэй. Каб іх дзеянні не былі кваліфікаваныя як дэманстрацыя, вучні і бацькі не ўзялі з сабой ніводнага плаката, а трымалі ў руках толькі падручнікі, глобусы і геаграфічныя мапы. Міліцыя заблакавала выхад на вуліцу Кірава праз браму, і тады жывы ланцуг прыкладна з 50 чалавек выйшаў на вул.К.Маркса і пачаў рухацца вакол квартала. Але насупраць будынка каардынацыйнага камітэта СНГ, на вул.Камсамольскай, міліцыянты пачалі затрымліваць удзельнікаў акцыі. Хапалі толькі мужчын. Непасрэдна выконвалі загад маладыя, кораткастрыжаныя хлопцы ў спартовай вопратцы, якія больш нагадвалі бандытаў, чым ахоўнікаў парадку. Яны выхопвалі чарговую ахвяру з ланцуга, цягнулі да міліцэйскіх машын, не звяртаючы ўвагі на крыкі жанчын і дзяцей. Высокаму барадатаму мужчыну пры затрыманні да крыві разбілі галаву. Сяргею Крыштаповічу разарвалі вопратку.

Дарэчы, у 12 гадзін, калі побач з ліцэем збіраліся бацькі і вучні, прэзідэнт Лукашэнка ў суправаджэнні ўсёй сваёй світы (Шэйман, Ціцянкоў, Замяталін, Пашкевіч, Бародзіч, Агалец ды іншыя) наведаў стадыён «Дынама», што ў некалькіх кроках ад ліцэя. Ліцэісты не выключалі, што прэзідэнт можа зазірнуць і да іх, каб на месцы «разабрацца». Але Рыгоравічу цікавей было паглядзець, як тэрыторыю стадыёна брукуюць дарагой чырвонай пліткай.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

***P.S.*** *Калі гэтыя радкі былі ўжо звярстаныя, сталі вядомыя яшчэ тры прозвішчы затрыманых: гэта Алесь Станішэўскі і Алесь Калбаска, якога схапілі ўжо пасля акцыі на ганку ліцэя, пацвердзіліся звесткі і аб затрыманні Анатоля Палаценкі. Па звестках бацькоўскага камітэта ліцэя, хлопцы ў цывільным, якія дапамагалі міліцыі арыштоўваць людзей, не хавалі, што яны — пасланцы арганізацыі «Прамое дзеянне». Іх да ліцэя прыехаў цэлы аўтобус.*

## Будзем святкаваць разам!

**Беларускі народны фронт, Аб'яднаная грамадзянская партыя і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) — стварылі аргкамітэт па святкаванні шостай гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларусі.**

Аргкамітэт створаны для каардынацыі дзеянняў пры перамовах з кіраўніцтвам Мінскага гарвыканкама. БСДП і БНФ падалі ў гарвыканкам дзве розныя заяўкі наконт правядзення 27 ліпеня святочных мерапрыемстваў. Пры гэтым БСДП меркавала пачаць акцыю на плошчы Якуба Коласа ў 12:00 і закончыць яе мітынгам на плошчы Незалежнасці; Народны фронт плануе правядзенне акцыі з удзелам 20 тысяч чалавек на плошчы Я.Коласа, а мітынгу — каля Палаца спорту. Аргкамітэт, па словах старшыні БСДП М.Статкевіча, павінен усё узгадніць, *« каб Мінгарвыканкам не сутыкнуў нас ілбамі»*.

Аргкамітэт узначальвае выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі.

*БелаПАН*

## Па студэнцкі білет – марш!

Учора ў вышэйшых навучальных установах пачаліся ўступныя экзамены. Перад тым, як пачаўся іспыт, абітурыенты павінны былі паглядзець і паслухаць па тэлебачанні 7-хвіліннае сачыненне прэзідэнта Лукашэнкі. Яно было прачытанае з паперкі і, як заўсёды, з памылкамі. Лукашэнкаўскі опус, напісаны на «магутнай і прыгожай рускай» і крыху на «роднай матчынай мове», закранае *«непростой путь к заветному студенческому билету»*. Патрыятычны пафас, які белымі ніткамі сшывае слова «хозяина страны» быў падмацаваны слёзным акордам: *«Никогда не забуду, как я получил свой первый студенческий билет, как показал его матери и увидел слезы на ее лице. Слезы радости, что в далеком сельском доме вырос студент»*.

Рыгоравіч не забыўся нагадаць, што ў яго ажно два дыпломы, якія ён *«делил с мамой»*, а яна дзеля адукацыі свайго Сашы *«делилась последним»*. Менавіта такі лёс чакае і мацярок будучых студэнтаў: жыццё ў горадзе вельмі дарагое. Прэзідэнт Лукашэнка супакойвае тым, што *«дети министров и дети хлеборобов»* нарэшце будуць роўнымі на ўступных экзаменах. Хочацца спадзявацца толькі, што вывучыўшыся яны не скажуць пра сваіх бацькоў, як аднойчы Лукашэнка пра маці — «старая варона».



*Лукашэнка праз тэлевізар «по-человечески завидует» абітурыентам.*

Пасля знікнення «хозяина страны» з блакітнага экрана дыктар абвяшчала тэмы сачыненняў для абітурыентаў, якія быццам бы вынікалі з прэзідэнцкага ўступнага слова. Па рашэнні дзяржкамісіі па кантролі за правядзеннем уступных экзаменаў па беларускай літаратуры студэнты пісалі сачыненне на тэму «Паэтызацыя народнай маралі ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля», а па рускай «Народныя характеры в романе Льва Толстого «Война и мир». Так званая вольная тэма і па беларускай, і па рускай літаратуры было адно — «Мы, беларусы, з братняю Руссю». У сваім выступленні прэзідэнт Лукашэнка згадаў пра роўнасць на ўступных экзаменах беларусаў і рускіх, украінцаў і палякаў, татараў і габрэяў, але ж вольную тэму прапанавалі фактычна толькі для беларусаў. Астатнім, відаць, варта найперш разабрацца ў народнай маралі і гераізме «братоў-славянаў». Сёлетнім абітурыентам абмежавалі выбар і тым, што ў мінулыя гады звычайна прапаноўваліся тры тэмы па беларускай і тры тэмы па рускай літаратуры. Але нашто такі клопат, дый выбар правакуе вальнадумства.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Лінг просіцца ў адстаўку

Прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, які знаходзіцца цяпер у адпачынку, учора накіраваў прэзідэнту Лукашэнку ліст з просьбай адпусціць яго на пенсію.

**Б.П.**

## Мундзіры школьнікам

Да пачатку новага навучальнага года беларускія прадпрыемствы пашыюць 28 тысяч школьных касцюмаў для хлопчыкаў і 50 тысяч для дзяўчынак.

Як паведамілі нам у міністэрстве гандлю, на сёлетні сезон было замоўлена 65 тысяч касцюмаў для хлопчыкаў і 60 тысяч для дзяўчынак. Аднак на такую колькасць не хапіла тканіны. Знешні выгляд паўтарамільённай школьнай аўдыторыі краіны будзе залежыць ад фінансавых магчымасцяў бацькоў. У міністэрстве адукацыі сказалі, што школьную форму набываць не абавязкова. Пытанне адзення вырашаюць самі школы. На кожны ўзрост аднак распрацаваны 2—3 мадэлі. Напрыклад, адна з мадэляў для хлопчыкаў складаецца з пінжака ў клетку і аднатонных нагавіц. Кошты на школьнае адзенне вагаюцца ад 450 да 900 тысячаў рублёў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Абітурыенты маюць шанцы вывучыць нават кітайскую мову

**Сёлета 42 дзяржаўныя ВНУ Беларусі прымуць каля 24 тысяч студэнтаў на дзённую форму навучання.**

У Беларускі дзяржаўны універсітэт, які лічыцца даволі прэстыжным, сёлета паступяць 1.690 абітурыентаў. На гэтыя месцы пададзена 4.120 заяваў. Універсітэцкі конкурс у выніку склаў 2,4 чалавекі на адно месца, што на 0,3 ніжэй за леташні паказчык.

Падзенне конкурсу адзначаецца на 27 спецыяльнасцях і толькі на 12 спецыяльнасцях назіраецца невялікі рост. Асабліва адчувальнае «падзенне» на юрыдычным факультэце БДУ. Калі на спецыяльнасць правазнаўства летась падалі заявы 796 чалавек, то сёлета толькі 495. У прыёмнай камісіі тлумачаць гэта тым, што сярод уступных экзаменаў на гэтую спецыяльнасць пакінулі пісьмовую матэматыку, якую знялі ў іншых ВНУ на гэтую ж спецыяльнасць. У параўнанні з мінулым годам на 0,3 упаў конкурс на спецыяльнасць камерцыйная дзейнасць на рынку радыётэхнічных сродкаў (2,2 чалавекі на месца). Вырас конкурс на спецыяльнасці беларуская мова і літаратура, руская мова і літаратура, эканамічная тэорыя, паліталогія, англійская мова.

Яшчэ за два дні да пачатку экзаменаў на першы курс БДУ было залічана 513 абітурыентаў. Сярод іх 153 пераможцы алімпіяд, якім не трэба было здаваць экзамены, а таксама 360 медалістаў і пераможцаў універсітэцкай алімпіяды, якія прайшлі тэставанне. З медалістаў кожны другі быў адсеяны. Пасля залічэння алімпійцаў і медалістаў засталося 1.177 месцаў і 3.300 прэтэндэнтаў. Конкурс сярод гэтай колькасці абітурыентаў 2,8. На спецыяльнасць інфарматыка на адно месца 8 прэтэндэнтаў, на камерцыйную дзейнасць — 7,5, на псіхалогію — 5. Сярод новых спецыяльнасцяў у БДУ — італьянская мова, менеджмент у галіне турызму, інфармацыя і камунікацыя. Для тых, хто не паступіць на бясплатнае навучанне, ёсць магчымасць паспрабаваць шчасце на платным, дзе заявы прымаюцца да 20 жніўня.

На дзённае навучанне ў Мінскім лінгвістычным універсітэце (былы «ін'яз») конкурс складае 3 чалавекі на адно месца, што не перавышае леташні паказчык. Самы высокі конкурс на перакладчыцкі факультэт англійскай мовы — 6,5, на спецыяльнасць японская мова — 4,4, на англійскую мову з другой замежнай — 3,6, перакладчыцкі факультэт нямецкай мовы — 3,6, іспанская мова з другой замежнай — 3,5, кітайская мова — 3,5, нямецкая мова з другой замежнай — 3,03. Ніжэйшы, чым у мінулым годзе, конкурс на факультэт французскай мовы (да 2), а таксама на спецыяльнасці замежная мова плюс беларуская мова і літаратура. У прыёмнай камісіі лічаць, што менавіта гэтая акалічнасць адбілася на паніжэнні агульнага паказчыка.

У лінгвістычным універсітэце вялікімі канкурэнтамі звычайным абітурыентам будуць «мэтавыя» абітурыенты. Па рашэнні міністэрства адукацыі мясцовыя аддзелы народнай адукацыі накіравалі выпускнікоў школ для паступлення на адпаведныя спецыяльнасці, каб запоўніць вакансіі настаўнікаў замежнай мовы ў сельскіх школах. Пасля заканчэння ВНУ «мэтавікі» павінны адпрацаваць пэўны тэрмін у вызначаным месцы. У гэтых абітурыентаў будзе свой конкурс. На адно «мэтавае» месца прэтэндуюць да пяці чалавек. Як высветлілася, многім спадабаўся «мэтавы» набор. Замест сельскіх выпускнікоў у спісы трапілі гарадскія. Некаторыя для гэтага нават змянілі прапіску. Як сказалі ў прыёмнай камісіі, гарадскія выпускнікі могуць прэтэндаваць на «мэтавы» набор толькі ў «чарнобыльскіх» Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Як правіла, «мэтавікі» экзамены здаюць кепска, і сёлета план наўрад ці будзе выкананы.

У Беларускім педагагічным універсітэце імя Максіма Танка сёлетні конкурс склаў 2,6 на месца, што не перавышае мінулагодні паказчык. Найбольшы конкурс (каля пяці чалавек на месца) на спецыяльнасці геаграфія і беларуская мова і літаратура, беларуская мова і літаратура і сусветная і айчынная культура, беларуская і замежныя мовы, фізкультура і спорт. Каля трох чалавек на месца на спецыяльнасці педагогіка пачатковага навучання, дэфекталогія. Меншы конкурс на фізіка-матэматычныя спецыяльнасці.

Сярод новых спецыяльнасцей у педагагічным універсітэце — англійская мова, беларуская мова і літаратура (конкурс 2,5), педагогіка і псіхалогія выяўленчага мастацтва (2), сацыяльная псіхалогія (2).

У Беларускім аграрным тэхнічным універсітэце агульны конкурс склаў 2,4 чалавека на месца. Самы высокі конкурс на спецыяльнасць эканамічная інфарматыка (4,5), а самы нізкі — на механізацыю сельскай гаспадаркі (каля 2).

У Беларускі універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, як і ў мінулым годзе, сярэдні конкурс 1,6 чалавека на месца.

У Беларускай політэхнічнай акадэміі сярэдні конкурс крыху больш за 2 чалавекі на месца. На спецыяльнасці аўтамабілі, робататэхніка, маркетынг, менеджмент, біятэхнічныя медыцынскія прэпараты, метралогія конкурс да 5 чалавек на месца. Крыху больш аднаго прэтэндэнта на спецыяльнасці распрацоўка карысных выкапняў, горныя машыны і абсталяванне.

У Беларускім эканамічным універсітэце (былы «нархоз») агульны конкурс склаў 3,2 чалавекі на месца, што на 0,1 менш, чым летась. Найбольшы паказчык (да 4 прэтэндэнтаў на адно месца) на спецыяльнасці гаспадарчае права, міжнародныя эканамічныя адносіны, крэдыт і фінансы.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Па якім календары жывем?

Як паведамілі газеты, у Паўночнай Карэі (КНДР) ўведзены новы календар. Згодна з ім жыхары краіны жывуць цяпер не ў 1997-м, а ...у 86 годзе, бо, паводле новага календара, адлік часу пачынаецца з 15 красавіка 1912 года— дня нараджэння «вялікага правадыра народа» Кім Ір Сена. Заадно сам гэты дзень вырашана называць надалей «Днём сонца».

Мяркую, што кіраўнік КПБ В.Чыкін (ён жа і правая рука мэра Мінска па ідэалагічным выхаванні працоўных), будучы вялікім прыхільнікам і прапагандыстам ідэй чучхе, не забыўся горача павіншаваць сваіх паўночнакарэйскіх аднадумцаў з такімі гістарычнымі новаўвядзеннямі.

Зрэшты, вольнае абыходжанне з календаром — справа для гісторыі вядомая. Так, напрыклад, Беніта Мусаліні, з улікам волі «дарагога ягонай душы італьянскага народа», адмяніў у свой час і юліянскі, і грэгарыянскі календары і абвясціў дэкрэтам у якасці пачатку новай эры дзень свайго прыходу да ўлады. Ужо ў нашы дні лівійскі дыктатар Муамар Кадафі, кіраўнік вышэйшага рэвалюцыйнага кіраўніцтва Сацыялістычнай Народнай Лівійскай Джамахірыі (усе яны, бачыце, вырашаюць імем народа і дзеля народа) «адкарэктаваў» ісламскі календар: летазлічэнне паводле Кадафі пачынаецца не з часу адыходу прарока з Меккі, а з году яго смерці. «Усё могуць каралі». Каралі і дыктатары.

Калі ў Паўночнай Карэі заканчвалася трохгадовая жалоба па «вялікім правадыры» і ўводзіўся новы календар з «Днём сонца», то ў Беларусі якраз ішлі пышныя святочныя ўрачыстасці, прысвечаныя, згодна новаму календару, адразу тром Дням — вызвалення, незалежнасці і рэспублікі(?!) і пачыналася шырокавяшчальная дэманстрацыя тэлефільма, галоўны сэнс якога: з прыходам Лукашэнкі да ўлады прыйшоў у Беларусь «Дзень сонца», прыйшлі мір, дабрабыт і росквіт. Вось так, ні больш ні менш.

Ну ды я, можа, і не пісаў бы ў газету, калі б не адна, наступная акалічнасць. Заглянуў у настольны календар і, не паверыўшы адразу вачам сваім, убачыў: «27. Воскресенье. День независимости». Так і напісана — чырвоным па белым (хаця календар замяталінскі, рускамоўны); «День независимости». І, безумоўна, запісана, зазначана слушна складальнікамі календара. Бо менавіта ў гэты дзень, дзень 27 ліпеня дзевяностага года, была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, менавіта ў гэты, памятны нам усім, дзень пастановай Вярхоўнага Савета, вышэйшага прадстаўнічага органа краіны (а не нейкім дэкрэтам) 27 ліпеня было абвешчана Днём незалежнасці, нацыянальным святам Беларусі.

Іншая справа, хто і як будзе адзначаць гэты дзень. Ну ды гэта ўжо залежыць ад таго, хто па якім календары ў нашай беднай Беларусі жыве. Ва ўсякім разе на нашай вуліцы свята нешта ўсё не ладзіцца.

**ЗАРЭЎСКІ В.І.,**
*выкладчык гісторыі*

# Ритуальные пляски за чужой счет

Основу благополучия гражданина нормально развивающегося общества составляют, как правило, три компонента: работа (бизнес) — как источник дохода, здоровье — как основа долгожительства, досуг — как средство полноценной жизни.

Как же обстоят дела со всеми этими «тремя составляющими» у нас в стране?

Большинство заводов, фабрик, колхозов-совхозов после «планового застоя» так и не были «запущены» в постсоветский период по целому ряду как объективных, так и субъективных причин. Работа на многих из них заключается в переводе энергоресурсов, сырья, комплектующих из заготовительных помещений в склады готовой продукции, или, в лучшем случае, мы имеем бартер с бесконечными сроками расчета, от чего денег ни в заводской кассе, ни в бюджете государства не прибавляется.

Ни существующее законодательство, ни попытки акционирования, приватизации или, наоборот, усиления государственого регулирования (вплоть до прямого президентского правления на отдельных предприятиях) не вносят радикальных изменений в состояние промышленности и экономики в целом.

Вся эта нестабильность соответственно сказывается и на здоровье нации — снижается продолжительность жизни населения, смертность превышает рождаемость, ослаблено внимание к профилактике заболеваний и пропаганде здорового образа жизни, создан, из-за дороговизны, фактический дефицит необходимых лекарств.

О досуге основной массы населения, которая его проводит на своих дачных участках, тоже говорить не приходится. Кинотеатры пустуют из-за дороговизны билетов и «американизированного» репертуара, дома культуры и клубы на периферии чахнут из-за отсутствия финансированя, библиотеки не имеют денег даже на газеты.

И вот на фоне всего этого упадка — в столице находятся деньги для проведения грандиозного праздника. Это сопоставимо разве что с тем, как если бы вождь африканского племени вместо того, чтобы вести соплеменников на охоту или сбор съедобных корешков, — устроил ритуальные пляски вокруг костра, да еще с потреблением сородичей в пищу.

Не менее удивительным в этой ситуации выглядит и предназначение нового патриотического молодежного образования, основными целями и задачами которого является только распределение произведенных кем-то материальных благ, а не упорный труд по их созданию.

И еще. Вместо подъема национальной культуры во всех уголках страны — проводятся славянские базарные ассорти с участием избранных. А вместо укрепления здоровья нищающей нации — устраиваются «показательные» выступления чемпионов.

Единственное, чему остается радоваться, это то, что «старший брат» таковым не является, а судя по времени рождения — на целое поколение моложе «младшего брата»: Минску 930 лет, а Москве — всего 850. С чем всех и поздравляю.

**Александр КОЗАК,**
*г.Гомель*

# Дзякуй газеце за дапамогу

Паважаная рэдакцыя газеты СВАБОДА!

Тыдзень таму, 9 ліпеня, СВАБОДА паведаміла, як кіраўніцтва мінскай міліцыі ціха, але паслядоўна і сур'ёзна дамагалася расфарміравання сярэдняй школы № 41 з мэтай атрымаць яе будынак і як мы, бацькі вучняў гэтай школы, даведаўшыся ў апошні момант пра патаемныя манеўры міліцыі, прадпрынялі шэраг рашучых крокаў супраць. Сярод нашых крокаў былі як законныя — звароты да ўладаў усіх узроўняў, так і не зусім законныя — пікетаванне будынка кіраўніцтва мінскай міліцыі без афіцыйнага на тое дазволу. Але што нам заставалася рабіць, калі заяўку на такі дазвол трэба падаваць за два тыдні, а пытанне аб закрыцці школы павінна было вырашыцца з дня на дзень. Пасля бойкі, як вядома, кулакамі не махаюць.

І вось ужо 12 ліпеня мы атрымалі адказ ад упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, дзе паведамляецца, што гарвыканкам афіцыйна адмовіў кіраўніцтву мінскай міліцыі ў прапанове зачыніць школу, і што «в следующем учебном году, как и в последующие годы, дети будут продолжать обучение в средней школе № 41».

Мы жадаем выказаць сваю падзяку кіраўніцтву і супрацоўнікам упраўлення адукацыі. Разам з тым мы перакананыя, што ў такім станоўчым вырашэнні нашага пытання ёсць і заслуга газеты СВАБОДА, і заслуга іншых сродкаў масавай інфармацыі і грамадскіх арганізацый, якія адгукнуліся на наш заклік аб дапамозе. Вялікі ўсім дзякуй!

І апошняе. Нягледзячы на той канфлікт, мы не хацелі б застацца ў напружаных адносінах з нашымі суседзямі — упраўленнем унутраных справаў. Як і раней, мы зусім не супраць таго, каб міліцыя, калі ёй гэта неабходна і калі гэта не перашкаджае вучобе дзяцей (напрыклад, у вечаровы час), карысталася спартыўнай пляцоўкай і памяшканнем школы. Мы зусім не супраць таго, каб і міліцыя чымсьці дапамагла школе: арганізавала нейкія спартыўныя гурткі ці курс заняткаў па першапачатковай юрыдычнай адукацыі нашых дзяцей. Мы ўпэўненыя, што пра ўсё можна дамовіцца, калі вырашаць пытанне не за спіной, а адкрыта і сумленна.

*Сход бацькоў вучняў школы № 41 г. Мінска —*
**САГАЛОВІЧ, ЗАБАРА, ТАМКОВІЧ, ІВАНОВІЧ, КРУКАЎ, ПУЗАНАВА, БОНДЗІКАВА, ЧАБАТАР, ШАТАЛАЎ, ПЕТРЫКАВА, ДОЎНАР, ЛІСІЦКАЯ**
*і іншыя, усяго больш за 30 подпісаў*

# «Убей президента»: справа працягваецца

13 чэрвеня 1997 г. суддзя Віцебскага аблсуда Гурко зачытаў прысуд па справе № 182. І аказалася, што следчыя органы дарма паўгода раскручвалі 67-ы артыкул Крымінальнага кодэкса з мэтаю «прышыць» мне дзяржаўнае злачынства ў форме заклiку да тэракту. Суд вырашыў замяніць 67-ы артыкул на 188-ы (знявага прадстаўніка ўлады). Засталося ў сіле і абвінавачанне па арт. 80, а вось артыкул 213 (нашэнне халоднай зброі) зняты. На судзе 13 чэрвеня суддзя Гурко запатрабаваў спагнаць з асуджаных судовыя выдаткі на аплату работы перакладчыкаў, якія перакладалі з рускай мовы на беларускую (дзяржаўную!), а таксама аплаціць дарожныя расходы сведкі Кірсанавай. Цікава, што ў прысудзе, сфармуляваным тэкстуальна, які я пасля атрымаў па пошце, апошнія два патрабаванні адсутнічаюць(!).

Паколькі я, а таксама спадары Хамайда і Плешчанка, падалі касацыйныя скаргі, прысуд не можа ўступіць у законную сілу. Пакуль мы чакаем вердыкту Вярхоўнага суда, нашыя дакументы і рэчы (камп'ютэр, друкарка, дзённікі ды інш.) застаюцца ў распараджэнні суддзі Гурко. Фармальна я па-ранейшаму знаходжуся пад падпіскай аб нявыездзе і не маю права перамяшчацца па-за горад.

Апошнімі днямі павышаную ўвагу людзі рэжыму праяўляюць да пакоя ў інтэрнаце, дзе я прапісаны і жыву з 1991 года. Асобы ў міліцэйскай форме і ў цывільным стараюцца правацца ў памяшканне пад выглядам пошуку знаёмых, якія ў сапраўднасці тут ніколі не пражывалі. Толькі нядаўна з суседняга пакою выселіўся нейкі ўчастковы Савецкага РАУС, які ажыццяўляў негалосны нагляд за мною. І вось на ягонае месца спрабуюць падсяліць новага.

Стала вядома, што ў Маладзечне ўжо больш за паўгода гэбістамі вядзецца адкрыты нагляд за рабочым малаказавода Уладзіславам Свянціцкім. Прыкладна раз на месяц да ягонай хаты пад'язджае «Волга» з палкоўнікам(!) КДБ. Палкоўнік стукае ў вокны і дзверы да таго часу, пакуль яго не ўпусцяць у дом, дзе ён можа знаходзіцца гадзіну і больш. Гэтыя «наезды» з элементамі шантажу складаюць частку задання па асабліва пільнай «распрацоўцы» апазіцыйнай рэжыму патрыятычнай групы г.Маладзечна, у тым ліку і ў сувязі са справай №182, пра што сведчыць наступная вытрымка з абвінаваўчага заключэння: «Материалы по фактам распространения листовки «Лукашенская правда» №№2(2) за сентябрь 1995 года, 2(4), 3(3) за 1996 год, газеты «Выбор» №8(102) за январь 1996 года и наличия в г.Молодечно у связей Адамовича С.Г. огнестрельного оружия, а также по факту распространения материалов с призывами к свержению конституционного строя Республики Беларусь выделены из уголовного дела №182 и направлены для проверки в оперативное подразделение КГБ Республики Беларусь». Такім чынам, адсочванне беларускіх патрыётаў працягваецца. Палкоўнік, дарэчы, прызнаўся, што газаправод усё ж узарвалі, так што можна гаварыць пра сур'ёзную дыверсію. І ў гэтым сэнсе актыўнасць гэбістаў цалкам зразумелая. Будзем жа паводзіць цябе так, каб іх высілкі засталіся безвыніковымі.

**Славамір АДАМОВІЧ,**
*г.Мінск*

## У Гомельскай вобласці таксама будуць старасты

**Рашэннем Гомельскага абласнога савета дэпутатаў у вёсках Гомельшчыны ўводзіцца пасада старасты.**

Такім чынам, Гомельская вобласць рашыла пераняць вопыт Гродзеншчыны і Брэстчыны, дзе палажэнне аб старастах было ўведзенае раней. Сельскія старасты будуць абірацца на агульным сходзе жыхароў населенага пункта тэрмінам на два гады. Пералік абавязкаў старасты, які ўключае 17 пунктаў, прадугледжвае яго ўзаемадзеянне з мясцовымі органамі ўлады ў вырашэнні надзённых праблем насельніцтва, а таксама арганізацыю жыхароў на *«грамадскакарысную працу»*.

Ускладзеную на яго місію стараста абавязаны выконваць на грамадскіх пачатках — гэта значыць бясплатна. Пры гэтым, аднак, не выключаецца магчымасць атрымання *«заахвочвальнай узнагароды за дасягнутыя поспехі»*.

*БелаПАН*

## Жлобін стане інстытуцкім горадам

**Сёлета ў Жлобіне адчыняецца філія Гомельскага політэхнічнага інстытута. Студэнтаў прымуць на вечаровую форму навучання па трох спецыяльнасцях.**

Такім чынам, жлобінцы атрымаюць у родным горадзе магчымасць прайсці поўны курс: тэхнічны клас у ліцэі — металургічны тэхнікум — політэхнічны інстытут.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Выгналі семнаццаць міліцыянтаў

**Значны рост злачыннасці ў параўнанні з мінулым годам канстатавала чарговая калегія Гомельскага УУС.**

Былі названыя асабліва небяспечныя раёны — Светлагорскі, Лельчыцкі, Жыткавіцкі. На калегіі адзначаліся і сур'ёзныя праблемы ў праваахоўных органах. Многія міліцыянеры кепска валодаюць табельнай зброяй і прыёмамі самаабароны, п'янствуюць, парушаюць транспартную дысцыпліну. За такія паводзіны з органаў унутраных справаў былі звольненыя 17 супрацоўнікаў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Такі квадрат і Малевічу не сніўся

**У Гомельскай выпраўленча-працоўнай калоніі для жанчын прайшоў адборачны тур першага рэспубліканскага конкурсу творчасці асуджаных «Квадрат дабрыні».**

Гэты конкурс распрацаваны і адбываецца як навукова-эксперыментальная гуманістычная акцыя па даследчай праграме «Адукацыйная творча-развіццёвая сістэма «Універсум» (інтэлект — духоўнасць — здароўе)».

Мэта акцыі — праз жывапіс, вершы, песні, танцы, вязанне, мадэляванне — рэсацыялізаваць маладых злачынцаў. Лепшыя работы прэміраваныя і адабраныя для ўдзелу ў рэспубліканскай выставе творчасці асуджаных.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## І холадна, і салодка

**Улетку за тыдзень жыхары і госці Гомеля з'ядаюць 105 тон марожанага, або 1 млн. 300 тыс. пачакаў.**

Такім чынам, на кожнага жыхара прыпадае прыкладна па 2,6 пачка марожанага ў тыдзень. Такая статыстыка вельмі падабаецца гомельскаму заводу марожанага — і халадзільшчыкі стараюцца.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Разбойнікі з музейным пісталетам

**У райцэнтры Горкі Магілёўскай вобласці затрыманая злачынная групоўка, якая абрабавала музей польскай вайсковай славы ў вёсцы Леніна.**

У выніку рабаўніцтва з музея было скрадзена некалькі пісталетаў часоў апошняй сусветнай вайны. Гэтая зброя не была дзеяздольнай. Але злачынцы разлічвалі на псіхалагічны эфект. І не вельмі памыліліся: яны здолелі ажыццявіць 3 разбойных напады, больш за 10 крадзяжоў. Узрост бандытаў — 20-25 год.

**Іван ЗАСАДА**



СПОРТ

## Абрабавалі чэмпіёна

**ВЕСЛАВАННЕ: АБСАЛЮТНА ПЕРШАЯ!**

Кацярына Хадатовіч у гэтым сезоне нястомна пацвярджае, што залаты алімпійскі медаль, заваяваны у Атланце, — не выпадковасць. Пакуль яна перамагае ва ўсіх спаборніцтвах: выйгрыш «каралеўскай рэгаты» ў Амстэрдаме і этапаў Кубка свету ў Мюнхене, Парыжы і Люцэрне. Высокі клас — па выніках трох этапаў Кубак безагаворачна дастаўся Каці.

Яшчэ два беларускія экіпажы — жаночая васьмерка і мужчынская чацвёрка парная — па суме этапаў занялі другое месца. Нагадаем, што ў алімпійскай Атланце васьмерка нашых дзяўчат была ўзнагароджаная бронзай.

**ФУТБОЛ: ПЕРШЫ КРУГ МЫ АМАЛЬ АДГУЛЯЛІ**

Бабруйская «Белшына» вельмі ўпэўнена выйграла першы круг нацыянальнага чэмпіянату. Цяпер усіх цікавіць: ці змогуць бабруйчане утрымацца на вышыні турнірнай табліцы?

Цяперашні поспех «Белшыны» — вынік разумнай арганізацыйнай і, скажам так, селекцыйнай працы. Яшчэ нядаўна ў Бабруйску было дзве каманды — «Фандок» і «Шыннік». Аднак падобны варыянт знакаміты О'Генры вуснамі свайго літаратурнага героя характарызаваў так: «Расінанту не вынесці дваіх». Футбольны клуб — дарагое задавальненне. Гэта зразумелі ў Бабруйску і Віцебску, дзе таксама з аб'яднання «КІМа» і «СКБ-Лакаматыва» нарадзіўся «Лакаматыў-96». Як вынік, менавіта гэтыя аб'яднаныя каманды — «Белшына»» і «Лакаматыў-96» узначальваюць турнірную гонку. Дзіўна, што ў Магілёве яшчэ не разабраліся ў гэтай няхітрай жыццёвай арыфметыцы.

Як у гандболе мы страцілі вялікую — і лепшую ў свеце — каманду мінскага СКА, так у футболе расплаціліся мінскім «Дынама». На жаль, спртыўныя арганізатары не змаглі адэкватна адрэагаваць на страту такога палігону, як чэмпіянат СССР. Яшчэ больш да падзення нашага флагмана спрычыніліся непрафесіяналізм і сквапнасць футбольных функцыянераў. Федэрацыя футболу з-за боязі згубіць частку даходаў не жадае рэфармаваць чэмпіянат у лізе мацнейшых, і турнір перанасычаны матчамі з ужо наперад вядомым вынікам.

Другая бяда «Дынама» і ўсяго нашага футбола — недарэчная камерцыялізацыя. Акцыянернае таварыства «Футбольны клуб «Дынама» (Мінск)», палітыку якога вызначае яго прэзідэнт Яўген Хвастовіч, валодае чатырма клубамі першай лігі. Камерцыйная зацікаўленасць акцыянернага таварыства, відавочна, стаціць вышэй за ўласна спартыўныя мэты асобных каманд. Відавочны прыклад — паўфінальны матч Кубка Беларусі паміж «Дынама-93» і «Дынама», вынік якога быў прадвызначаны яшчэ да яго пачатку. А чаго каштуюць пераводы ігракоў з каманды ў каманду, каб дагадзіць трэнэрскім амбіціям! «Маладзечна» з-за гэтага, як моцны футбольны калектыў, ужо практычна страчана.

Затое папаўняць касу за кошт продажу ігракоў у Англію, Бельгію, Расію, Украіну, Ізраіль у дынамаўскім АТ навучыліся. Ламаць — не будаваць. Ратаваць сітуацыю тэрмінова закліканы Анатоль Байдачны, нядаўна прызначаны галоўным трэнерам мінскага «Дынама». Няма сумневу, што ён, вядомы трэнэр-прафесіянал з досведам работы ў першай лізе чэмпіяната СССР і ў краінах Бліжняга Усходу, справіцца са сваёй задачай. Калі, вядома, яму не будуць перашкаджаць.

Шэсць матчаў 15-га тура прайшлі ў сераду, а яшчэ два — у чацвер. Вынікі сустрэч «Дынама» (Мінск) — «Нёман» (Гродна) і «Шахцёр» (Салігорск) — «Дынама-93» у нумар не паспелі.

*«Белшына» (Бабруйск) — «Тарпеда» (Мінск) — 2:1. МВКЦ (Мазыр) — «Тарпеда-Кадзіна» (Магілёў) — 2:0. «Лакаматыў-96 (Віцебск) — «Дынама» (Брэст) — 4:0. «Атака» (Мінск) — «Днепр» (Магілёў) — 0:1. «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) — ФК Маладзечна — 1:1. «Камунальнік» (Слонім) — «Трансмаш» (Магілёў) — 3:1.*

**ВЕЛАСПОРТ: *TOUR DE FRANCE***

Больш за палову трасы прайшлі ўдзельнікі самай прэстыжнай шматдзённай велагонкі *Tour de France*. Пакуль гонка ішла па раўніне, у ёй дамінавалі такія вядомыя фінішоры, як італьянец Марыё Чыпаліні і немец Эрык Забель. Аднак горныя этапы (9–11-ы) усіх паставілі на свае месцы. Лідэрам стаў іншы нямецкі майстар Ян Ульрых, віцэ-чэмпіён мінулагодняга *Tour*. 2 хвіліны 38 секунд саступае яму нязменны «горны кароль» апошніх гадоў Рышар Віранк (Францыя), 4.46 — Абрахам Алана (Іспанія), 4.53 — пераможца *Tour de France-96* Б'ярнэ Рыйс (Данія).

**АХВЯРА — ЛЫЖНІК-СТРАЛОК**

Як паведаміла газета «Прессбол», у ноч на панядзелак у Мінску быў здзейснены ўзброены напад на кватэру двухразовага чэмпіёна свету па біятлоне Вадзіма Сашурына. Двое ў масках з пісталетамі ўварваліся ў кватэру, аглушылі гаспадара ўдарам па галаве, пагражалі фізічнай расправай. Але ў выніку задаволіліся тым, што вынеслі ўсе каштоўныя рэчы, пакінуўшы чэмпіёна звязаным.

У аўторкавым нумары СВАБОДА пісала, што рабаўніцтва вядомых спартсменаў сталі распаўсюджанай з'явай. На новыя факты, на жаль, доўга чакаць не давялося.

**Сямён ПЛОЦ**

АНЕКДОТЫ

*— Ад чаго паміраюць людзі?*

*— Ад інфаркту, ад інсульту, ад раку, ад сухотаў.*

*— А чаму на жалобных вянках пішуць: «Ад дырэкцыі», «Ад прафкома», «Ад сяброў», «Ад рэдакцыі», «Ад жонкі і дзяцей»?*

*Чалавек з вёскі паехаў у горад. Сусед пытае:*

*— Ну, як з'ездзіў?*

*— А нішто. Туды ехаў — гляджу: на дарозе ляжыць палена. Назад еду — сматру: ляжыць браўно.*

*Прыехала баба летам з горада ў сваю вёску. Сабралася ў грыбы. Стукае да суседкі:*

*— Ганна, у грыбы са мной пойдзеш?*

*— Не, не пайду, ногі баляць.*

*— Дык не пойдзеш?.. А Васіль твой, можа, пойдзе?*

*— Ён жа паўгода як памёр.*

*— Дык не пойдзе?..*

*Чарга ў аптэцы.*

*— Гэй, дзед, ты што купляеш ці так будзеш стаяць?*

*— Я вось лічу: можа хаўтуры таннейшыя...*

*На базары.*

*— Скажы, дзядзька, у цябе парасяты мясной пароды ці сальнай?*

*— А гэта як будзеш карміць: добра — дык будзе сала, а слаба — адно голае мяса!*

*Едуць дзве цёткі-зямлячкі ў аўтобусе.*

*— Дык ты цяпер таксама ў Мінску, пры дачцэ?*

*— Ага. А ты пры сыне?*

*— Ага. Жыву ў Шабанох-Жабаёх. Толькі жабаў ніякіх ніколі не чуваць.*

АФІША

## Начныя забавы

Сёння мы прапануем клубную афішку для аматараў начнога жыцця і вясёлых забаў.

Клуб «Макс-шоў», што знаходзіцца ў кінатэатры «Кастрычнік», прапануе выступленне маскоўскага «Тэатра жахаў». Да нас у госці прыедуць лялькі ў выглядзе монстраў, вампіраў і іншых не менш (і не больш) сімпатычных істот. Некаторыя з імі знаёмыя па праграме расійскага тэлебачання «На ночь глядя». Шоў адбудзецца сёння, у пятніцу, 18 ліпеня.

А кожную сераду, чацвер і нядзелю ў памяшканні клуба вы зможаце паглядзець шоў-рэвю «По дороге в Голливуд».

Бокс-клуб «Рэактар» абяцае «грандыёзную вечарыну» пад кіраўніцтвам маскоўскага *DJ* Славы Фініста. Пачатак сёння, 18 ліпеня, а 23-й гадзіне, а заканчэнне, трэба думаць, ужо заўтра. Кошт білетаў, як паведамілі мне арганізатары, «невысокі», але дакладную лічбу не назвалі. І ўсё ж на дэмпінгавыя цэны спадзявацца не варта.

Сёння ж, 18 ліпеня, у дыскатэцы «Парадыз» стартуе прэзентацыя былога маскоўскага, а цяпер зусім мінскага «Радио Рокс». Праграма вельмі вялікая. З сямі гадзін вечара пачнецца творчая сустрэча з Уладзімірам Тузам і ды-джэямі «Радио Рокс». Плануюцца выступленні гасцей (блюз, джаз, вакал). У 22:00 — аўтарская праграма В.Туза «Усё аб піве» ў рэстаране «Бірхаўз». А з 23:00 і да самай раніцы — вялікае шоў і дыскатэка ад «Радио Рокс». Тут вы зможаце ўбачыць мадэлі альтэрнатыўнай моды, а калі пашанцуе — то і выйграць пуцёўку на Канары. Таксама ўсіх чакаюць розныя конкурсы, гульні і падарункі. Кошт білета — 400 тыс.рублёў. Сума, канечне, уражвае, але ж — некаторым кожны туз здаецца казырным, а тут яшчэ і Канары...

Яшчэ адна вечарына «прагрэсіўнага танцавальнага руху» адбудзецца ў наступную пятніцу, 25 ліпеня. Клуб «Пілот» запрасіў у госці вядомага ды-джэя з Санкт-Пецярбурга Міху Ворана (нармальна яго завуць Міхаіл Варанцоў). Скокі на ўсю ноч пачнуцца а 22-й гадзіне. Кошт білетаў ад 100 да 200 тысяч рублёў. А калі хто не ведае, дзе знаходзіцца клуб «Пілот», паведамляем: пр.Машэрава, 105 (Акадэмія фізвыхавання).

**Аксана ПЯНКРАТ**



© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (першы завод — 36.870)
Нумар падпісаны ў друк 17.07.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 329